■ Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ ПАДВЯЛІ ВЫНІКІ ПЕРШАГА МЕСЯЦА КАМПАНІІ "УТУЛЬНЫ ГОРАД"

**8 снежня каля двух дзясяткаў магілёўцаў сабралася на сядзібе Магілёўскай абласной арганізацыі Беларускі народны фронт, каб абмеркаваць першыя вынікі інфармацыйнай кампаніі.**



На фота Алег Аксёнаў і Ігар Барысаў



На фота сабраўшыяся грамадзяне

На круглым стале, ініцыятарамі якога выступілі Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), аргкамітэт партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя, а таксама грамадзянская ініцыятыва "Грамадскі магістрат", былі абмеркаваны метады і формы работы з грамадзянамі і чыноўнікамі па добраўпарадкаванні дваравых тэрыторый.

- На дадзены момант сабрана 230 подпісаў у праблемных месцах горада, - кажа намеснік старшыні БСДП Ігар Барысаў, - 150 з іх на вуліцы Златавустаўскага, дзе грамадзяне ў першую чаргу бачаць патрэбу ў будаўніцтве дзіцячага садка, школы, а таксама паліклінікі. Па іх просьбе мы ўключылі неабходнасць будаўніцтва паліклінікі ў калектыўны зварот. Гэта сапраўды праблема, бо на раён, у якім пражывае каля 50 тысяч чалавек, няма ні дзіцячай, ні дарослай паліклінікі і жыхарам раёна прыходзіцца дабірацца да ўстановаў аховы здароўя ў іншыя часціны горада.

80 подпісаў за добраўпарадкаванне дваравых тэрыторый была сабрана ў дварах па пр-ту Дзімітрава і вуліцы Цыялкоўскага. Там стаіць войстрая праблема ў рамонце мясцовых праездаў, а таксама будаўніцтве дзіцячых пляцовак.

- Грамадзяне рэагуюць на збор подпісаў станоўча, - кажа грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі, - аднак у іх няма веры ў тое, што нешта можа быць вырашына падобным чынам. Людзі звыкліся, што ад чыноўнікаў нічога не дачакаешся, аднак на сваім уласным прыкладзе я спрабую даказаць, што вырашэнне любога пытання можна пасунуць з мёртвай кропкі, было бы на гэта толькі жаданне і энтузіязм.

Сабраўшыяся грамадзяне таксама прапанавалі рабіць праблемы двароў больш візуалізаванымі, каб пра іх можна было даснацца праз інтэрнэт і каб пра іх наяўнасць былі дакладныя сведчанні. Гэта на думку магілёўцаў падштурхне чыноўнікаў да хутчэйшага вырашэння праблем. Таксама прысутныя прапанавалі распрацаваць памятку для грамадзян з кантактамі арганізацый і адказных асобаў куды трэба скардзіцца ў выніку з'яўлення той ці іншай праблемы, звязанай з добраўпарадкаваннем тэрыторыі.

- Усе сабраныя подпісы мы ўжо выслалі ў Магілёўскі гарвыканкам. Гэта калектыўныя звароты, а значыць чыноўнікі мусяць азнаёміцца з праблемамі з выездам на месца. Мы таксама хочам задзейнічаць у межах кампаніі "Утульны горад" і дэпутатаў розных узроўняў, каб яны ні адсіджваліся, а таксама далучаліся да вырашэння праблем, якія ў першую чаргу ёсць на іхных раёнах, - кажа магілёўскі каардынатар аргкамітэта партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Алег Аксёнаў.

Варта адзначыць, што ў межах кампаніі дэмакратычныя актывісты плануюць ахапіць не менш за 200 найбольш праблемных двароў горада. На першым этапе збор подпісаў ужо ахапіў больш за 25 двароў.




На фота Аляксей Паўлоўскі

НАШ МАГІЛЁЎ
http://gazetanm.eu
№83

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў,
вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 08 снежня 2014 г.

ГРАМАДСТВА

■ Якуб Корсак

## У МАГІЛЁВЕ СТАРТАВАЛА ІНФАРМАЦЫЙНАЯ КАМПАНІЯ "УТУЛЬНЫ ГОРАД"

**Яе ініцыятарамі выступілі аргкамітэт партыі "Беларуская Хрысціянская дэмакратыя", Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) і грамадзянская ініцыятыва "Грамадскі магістрат".**

У межах кампаніі плануецца вырашэнне мясцовых праблем, якія звязаны з добраўпарадкаваннем гарадскіх тэрыторый, якім патрэбны якасныя змены ў самы бліжэйшы час.



- Мы ведаем, што праблема нумар адзін з добраўпарадкаваннем у горадзе - гэта дваравыя тэрыторыі. Па-першае, пераважная большасць іх знаходзіцца далёка не ў самым лепшым стане і патрабуе рамонту, а па-другое, у некаторых выпадках касметычнага рамонту ўжо недастаткова – трэба капітальнае перапланаванне двароў з улікам колькасці прыватнага аўтатранспарта, а таксама вызначэнні дадатковых зон для дзіцячых пляцовак, бо месца ў нашым горадзе выкарыстоўваецца далёка не рацыянальна, - кажа каардынатар аргкамітэта па стварэнні партыі БХД у Магілёве Алег Аксёнаў.

Актывісты ўжо вызначылі шэраг двароў, якім патрэбна добраўпарадкаванне ў самы бліжэйшы час.

- Ужо створаны аргкамітэты з ліку грамадзян, якія будуць займацца вырашэннем сваіх лакальных праблем. Адметнасць у тым, што мы аказваем людзям толькі інфармацыйна-арганізацыйную падтрымку, а праблемы, якія трэба ім вырашаць, яны вызначаюць самі, як і арганізоўваюць калектыўны збор подпісаў у мясцовыя органы ўлады, - кажа сябра Прэзідыума БСДП Ігар Барысаў.

Дэмакратычныя актывісты адзначаюць, што ў межах кампаніі плануецца ўзаемадзеянне з мясцовымі чыноўнікамі і дэпутатамі.

- Мы ставім перад сабой мэту дастукацца да нашай улады. Мы хочам, каб у нас адбыўся дыялог, каб чыноўнікі пачулі, якія праблемы турбуюць звычайных грамадзян і якія шляхі і механізмы іх вырашэння яны здольныя нам прапанаваць. Мы хочам, каб быў выпрацаваны план і вызначаны тэрмін, калі двары Магілёва будуць прыведзены ў належны стан, - кажа актывіст "Грамадскага магістрата" Зміцер Салаўёў.

Трэба адзначыць, што найбольшыя праблемы і з інфраструктурай адчувае на сабе Кастрычніцкі раён Магілёва. Менавіта ў гэтым раёне дэмакратычныя актывісты плануюць сканцэнтраваць свае намаганні па прыцягненні ўвагі да існуючых праблем і іх вырашэнні.

**Далучыцца да кампаніі «Утульны горада» можна пазваніў нам па тэлефоне +375 29 661 43 33, альбо праз e-mail: gazetanm.eu@gmail.com**

Вітольд Няўрыда

## У МАГІЛЁВЕ ГРАМАДЗЯНЕ РАСПАЧАЛІ ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ ДВАРОЎ

**Збор подпісаў распачаты на вул. Цыялкоўскага, вул. Златаўстаўскага, вул. Цярохіна, пр-ту Дзімітрава, а таксама пр-ту Шмідта. Агулам ініцыятыўныя групы грамадзян на першым этапе збору подпісаў плануюць ахапіць не менш за 30 двароў.**



**На фота Алег Аксёнаў**

- Збор подпісаў на вуліцы Цыялкоўскага звязаны з неабходнасцю добраўпарадчыць двары д. 6 і 8. Там няма ні пешаходных дарожак, ні мясцовых праездаў каля дамоў. Бардзюры адсутнічаюць, а пра дзіцячыя пляцоўкі людзям застаецца толькі марыць. Як пройдзе дождж - там можна хадзіць толькі ў гумавых ботах. Толькі яны выратоўваюць ад гліны, якой шмат каля гэтых дамоў, - кажа адзін з ініцыятараў кампаніі «Утульны горад» Алег Аксёнаў.

Праблемы з дрэннай якасцю мясцовых праездаў відавочны і ў дварах д.52, 54а, 56 і 58 па пр-ту Шмідта. Там патрэбен капітальны рамонт мясцовага праезда. Ямачны рамонт ужо не дапамагае і асфальт з ямак знікае з першымі маразамі, бо ён трэскаецца і пераўтвараецца ў дробнае камяні і пясок.

- Нялепшая сітуацыя з якасцю мясцовага пакрыцця назіраецца і ў раёне д.70, 72 і 72а па пр-ту Дзімітрава. Там дарога ўздоўж дзіцячага садка разбітая і патрабуе неадкладнага рамонту. Не хапае месцаў для парковак. У сувязі з тым, што побач пачалі будаваць краму «Еўраопт» была знішчана не толькі апошняя зялёная зона раёна, але і дзіцячая пляцоўка. Замест яе грамадзянам пакуль нічога не было прапанавана, - працягвае Алег Аксёнаў.

На вул. Златавустаўскага і вул. Цярохіна актывісты маюць намер распачаць збор подпісаў за будаўніцтва дзіцячага садка і школы, якіх катастрафічна не хапае.

## ДЕПУТАТА ГОРСОВЕТА МОГИЛЕВА ПОДОЗРЕВАЮТ В ХИЩЕНИИ И ЗЛОУПОТРЕБЛЕНИИ ПОЛНОМОЧИЯМИ

**В Могилеве заключен под стражу подозреваемый в коррупции депутат городского совета, бывший директор одного из коммунальных унитарных предприятий.**

Как сообщили **БелаПАН** в УСК по Могилевской области, следствие установило, что народный избранник с 2011 года по 2012-й систематически злоупотреблял своими служебными полномочиями. Получены доказательства хищения им товарно-материальных ценностей коммунального предприятия и незаконного использования труда подчиненных ему рабочих для выполнения строительных работ у себя в домовладении.

«В результате противоправных действий подозреваемого предприятию причинен ущерб более чем на 11 млн. рублей. Кроме того, подозреваемый дискредитировал авторитет руководителя государственного предприятия в глазах подчиненных, чем причинил существенный вред государственным интересам», — отметили в управлении Следственного комитета по региону.

В отношении подозреваемого прокуратурой Могилева возбуждено уголовное дело по статьям «Хищение путем злоупотребления служебными полномочиями» и «Злоупотребление служебными полномочиями».



Якуб Корсак



## ІГАР БАРЫСАЎ: "ШКОЛА І САДОК НА ЗЛАТАВУСТАЎСКАГА - ГЭТА СТРАТЭГІЧНЫЯ АБ'ЕКТЫ, ЯКІЯ НЕАБХОДНЫ РАЁНУ"

**Намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) Ігар Барысаў лічыць, што сацыяльныя аб'екты ў Магілёве не паспяваюць за ростам дамоў у новых мікраараёнах.**

**Намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) Ігар Барысаў лічыць, што сацыяльныя аб'екты ў Магілёве не паспяваюць за ростам дамоў у новых мікраараёнах.**

- Дамоў на вул. Златавустаўскага і вул.Цярохіна набудавалі шмат, аднак ні школы ні садка не пабудавалі дагэтуль. Жыхарам новага раёна прыходзіцца траціць процьму часу, каб завадзіць дзяцей у іншыя садочкі і школы, якія раскіданы ў межах усяго горада. Гэта нязручна і адымае шмат часу, - кажа сацыял-дэмакрат.

Каб вырашыць пытанне з мёртвай кропкі быў утвораны аргкамітэт з ліку мясцовых жыхароў раёна, які распачаў збор подпісаў за будаўніцтва садка і школы.

- Гэта першы збор подпісаў пад нашай ініцыятывай на новым раёне. Паводле нашай ацэнкі ў цэнтры двара, які ахоплівае больш за 20 дамоў, мусяць як раз такі і размяшчацца гэтыя сацыяльныя аб'екты, але іх няма, хоць некаторыя дамы ўжо зданы ў эксплуатацыю некалькі год назад. У цэнтры двара - пустыр. Хацелася, каб там былі школа і сад, а не хмарачосы і гандлёвыя цэнтры, - кажа Ігар Барысаў.

Намеснік старшыні БСДП лічыць, што калі ўлада зацікаўлена ў тым, каб гараджане давалі станоўчы прырост насельніцтва - трэба ствараць адпаведную інфраструктуру.

- Маладых сем'яў на раёне шмат. Некаторыя з іх думаюць пра другога і трэцяга дзіця. Калі ж не будзе інфраструктуры і трэць дні будзе займаць працэс адвозу і забірання дзіця з садка, то не кожны з маладых бацькоў адважыцца на павелічэнне сваіх сем'яў. Горад павінен быць для грамадзянаў і мусіць быць зручным, а чыноўнікі мусяць ствараць для гэтага усе ўмовы , - гаворыць Ігар Барысаў.



**На фота вул. Златавустаўская - месца для садка і школы**

## ТЭЛЕФОНЫ ЧЫНОЎНІКАЎ ДЛЯ ТЫХ, ХТО САМАСТОЙНА ЖАДАЕЦЕ ВЫРАШАЦЬ ПЫТАННІ З ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕМ ДВАРОЎ

**Адміністрацыя Ленінскага раёна**
Юч Міхаіл Іванавіч, тэл. 46-90-66

**Адміністрацыя Кастрычніцкага раёна**
Марыненка Павел Леанідавіч тэл. 45-04-33

**Магілёўскі гарвыканкам**
Веракса Аляксандр Віктаравіч, тэл.32-69-63, т/ф:25-30-82

**Магілёўскі аблвыканкам**
Янкоў Дзмітрый Васільевіч, тэл. 32-91-15.